№ 8 (124). Вільня, 25 Сакавіка 1938 г. Год X.


# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ


## 1918 — 1938

Бурна было ў 1917 і 1918 гадох. Вялікая рэвалюцыя развальвала ў пух і прах царскую Расейскую Імпэрыю. Чакалі на гэта перад усім паняволеныя Расеяй народы і карысталі з часу. Усе імкнуліся да самастойнага незалежнага жыцьця. Фіны, Эсты, Латышы, Літоўцы, Беларусы, Палякі, Украінцы, Грузіны, Армяне, Калмыкі — адны перад другімі хапаліся за будаўніцтва сваіх гаспадарстваў. Першымі былі Фіны. Яны ўжо 6.XII.1917 г. абвесьцілі незалежнасьць Фінляндыі. Незадоўга, 22.I.1918 г. у Кіеве Украінцы абвесьцілі незалежнасьць Украіны. 16 II.1918 г. Літоўцы абвесьцілі незалежнасьць Літвы. 25.III.1918 г. у Менску была абвешчана незалежнасьць Беларусі. Незалежнасьць сваіх краін абвесьцілі так-жа Эсты, Латышы, Грузіны, Армяне і іншыя народы. 11.XI.1918 была так-жа абвешчана незалежнасьць Польшчы.

Непадабалася ўсё гэта бальшавіком, якія на месца царскай Расейскай Імпэрыі хацелі стварыць вялікі саюз камуністычных рэспублік, сцэнтралізаваных у Маскве. І дзеля гэтага камуністы, як толькі захапілі ўладу ў Расеі, зараз-жа выступілі супроць найбольшага лікам паняволенага Расеяй народу Украінскага, каторы не схацеў ісьці за камуністамі і пасьпешна будаваў сваё незалежнае гаспадарства. Другім найбольшым лікам народам і найбліжэйшым да Масквы былі Беларусы, каторыя таксама варожа аднесьліся да бальшавіцкіх плянаў і імкнуліся да свае незалежнасьці. Дзеля таго незалежніцкую думку ў Беларусаў бальшавікі хацелі здушыць у самым зародку, дзе яна праявілася, г. зн. на Усебеларускім Кангрэсе ў Менску ў 1917 г.

Заняўшы Менск бальшавікі рухнулі на Польшч. — Польшч, аднак была найбольш падгатована да самастойнага жыцьця і пасьпела ўжо сарганізавацца, каб новым імпэрыялістам даць належны адпор. Пачалася заўзятая бальшавіцка-польская вайна. Яна фактычна аблягчыла працу Латышом, Эстам, Літоўцам і Фінам над умацаваньнем іхніх гаспадарстваў, бо ўся ўвага бальшавікоў была ськівавана на Польшч і на аканчальную барацьбу з астаткамі царскае арміі ген. Врангеля і інш. Польшч для бальшавікоў была страшная ня толькі тым, што яна ня йшла ў сьляды камуністаў, але так-жа і тым, што згодна з дагаворам Марш. Я. Пілсудзкага з украінскім Атаманам С. Петлюрай, мела памагаць Украінцам змагацца з бальшавікамі і тварыць незалежную Украіну з сталіцай у Кіеве. Пры тым былі вялікія надзеі, што Польшч дапаможа і Беларусам тварыць незалежнае беларускае гаспадарства. Тым больш, што і тут некаторыя факты як-бы пацьвярджалі гэтыя надзеі. Так напрыклад па загаду Марш. Я. Пілсудзкага пры польскай арміі былі арганізаваныя аддзелы беларускага войска. І сяньня нават некаторыя польскія палітыкі і гісторыкі цьвердзяць, што Марш. Я. Пілсудзкі хацеў аднавіць вялікую ягайлаўскуютрадыцыю. Большасьць аднак незалежніцкіх беларускіх палітыкаў ня верыла ў гэтыя пляны і ў часе польска-бальшавіцкае вайны прымушана была эміграваць.

Калі-б бальшавікі перамаглі Польшч, то хіба пасьля прыйшла-б чарга на меншыя нова-вызваленыя гаспадарствы, як Эстонія, Латвія, Літва і Фінляндыя, бо Грузію, Армэнію і іншыя вызваленыя з пад Расеі маладыя гаспадарствы на паўднёвым усходзе бальшавікі разбурылі і завялі ў іх савецкі лад.

Але бальшавіцка-польская вайна пры помачы Францыі кончылася перамогай Польшчы. Ня гледзячы на тое, што Польшч магла далей гнаць бальшавікоў, то аднак гэтага яна не зрабіла. Вайна кончылася мірам падпісаным 18.III.1921 г. у Рызе. Не паўстала Украіна і не паўстала Беларусь, а вайсковыя беларускія і украінскія аддзелы пры польскай арміі былі зьліквідаваныя. Мачала ў гэтым свае рукі быццам і Англія, якая мяркуючы эксплёатаваць Расею, а з ёй Украіну, Беларусь і інш. хацела, каб Польшч памірылася з бальшавікамі як найхутчэй.

Бальшавікі, хоць поўнасьцю апанавалі Беларусь, то мусілі аднак лічыцца з вялікім пад'ёмам незалежніцкага духу ў Беларускім Народзе. Дзеля таго 1.I.1919 г. стварылі яны Савецкую Сацыялістычную Беларускую Рэспубліку, спачатку толькі з некалькіх паветаў, а пасьля граніцы яе па шырылі. Былі нават мамэнты, калі бальшавікі давалі магчымасьць працы дзеля разьвіцьця беларускае культуры — у часы так зв. нацдэмаўшчыны (да 1930 г.). Пасьля аднак пачалі жорсткі прасьлед. Нават ёсьць падазрэньне, што „свабода“ з часоў „нацдэмаўшчыны“ была на тое, каб прыцягнуць у Менск як найбольш беларускае інтэлігенцыі і тады яе зьністожыць. Прасьлед беларускіх культурнікаў, паэтаў і пі-

сьменьнікаў яшчэ больш узмацоўвуе антыкамуністычныя настроі сярод беларускіх масаў. Але і на гэта камуністы не зварочваюць увагі. Бо цяпер у СССР фактычна ува ўсю адбываецца адбудова старое царскае расейскае імпэрыі, толькі не пад „двуглавым орлом“, а пад „красной звездой“.

Аднак незалежніцкі дух у Беларускім народзе жыве і ўсьцяж праяўляецца. Камуністы выкрываюць цэлыя арганізацыі, якія ставяць сабе за мэту незалежную Беларусь і прыгатаўляюцца да барацьбы за яе. Гэта нам кажа, што думка аб незалежнасьці ідзе ў сваім разьвіцьці правільнай дарогай, бо найбольшай слабасьцяй Беларусаў у 1918 г. была нястача адпаведнага прыгатаўленьня.

У Польшчы-ж што-раз часьцей сярод дальнявідных польскіх палітыкаў, каторыя сочаць за сучасным палажэньнем, паяўляюцца гутаркі аб адраджэньні ягайлаўскай ідэі, а нават аб патрэбе стварэньня незалежнае Беларусі і Украіны.

Усё гэта сьведчыць аб жывучасьці незалежніцкае ідэі.

**Я. Н.**

*УВАГА!*

*Да гэтага нумару далучаем „пішэказы разрахунковыя“ і ўсіх, хто дагэтуль не заплаціў належнае падпіскі на „Шлях Моладзі“, просім гэта зрабіць як найхутчэй бо ў праціўным выпадку высылка наступнага нумару „Шл. Мол.“ будзе ім стрымана. Тых, што заплацілі падпіску, просім „пішэказы“ перадаць сваім знаёмым і заахвоціць іх выпісваць „Шл. Мол.“!*

## Ці будзе Царкоўны Сабор?

Справа рэлігійная, справа Царквы і Касьцёла блізкая ня толькі людзям старэйшым — за ёю сачыць і цікавяцца і маладое пакаленьне.

Для праваслаўных беларусаў у Польскім Гаспадарстве адным з найгалаўнейшых пытаньняў ёсьць: ці будзе Царкоўны Сабор? Справа Сабору зьявілася заразжа пасьля ўстанаўленьня Аўтокефаліі Праваслаўнае Царквы ў Польшчы. Аб ёй ужо многа гаварылася і пісалася. Царкоўная ўлада ў рэзультаце шматлікіх дамаганьняў аднеслася да вырашэньня пытаньня скліканьня Сабору прыхільна. Зусім актуальнай сталася гэтая справа пасьля таго, як Прэзыдэнт Р. П. выдаў 31.V.1930 дэкрэт, каторы запэўняе, што Царкоўны Сабор будзе склікан ы.

Дэкрэт гэты, урачыста прачытаны 1.VI.1930 г. ува ўсіх праваслаўных цэрквах, паклікаецца на гістарычныя традыцыі, асабліва-ж на Пінскую Конгрэгацыю, якая на пярэдадні разбору Польшчы абвесьціла незалежнасьць ад Масквы Праваслаўнае Царквы на украінскіх і беларускіх землях. Пінская Конгрэгацыя абвесьціла тады незалежнасьць Праваслаўнае Царквы на гэтых землях ад Царквы расейскае, апіраючыся на саборнасьці і выразнай асобнасьці беларускага і украінскага народу ад народу вялікарускага.

Дэкрэт Прэзыдэнта аб Царкоўным Саборы, які дэкляраваў рэалізаваць тэстамант старой Польшчы, быў збудзіўшы сярод праваслаўных беларусаў, а таксама і украінцаў, добрую надзею.

Спачатку йшло ўсё быццам і добра: паўстала Прадсаборнае Сабраньне, у якое ўходзілі: 3 архірэі, 13 сьвяшчэньнікаў і 17 сьвецкіх. Прадсаборнае Сабраньне ўтварыла 6 спэцыяльных камісіяў дзеля падгатоўкі прац на Сабор і падзяліла рэфэраты. Праца пачыналася. Але ані Прадсаборнае Сабраньне, ані ягоныя некаторыя, асабліва найважнейшыя, камісіі на супольнае вырашэньне прыгатаваных паасобнымі сябрамі спраў ня зьбіраліся. Праца зацягівалася і ўсьцяж адкладывалася да неагранічанага часу.

У міжчасе гэтай „падгатаваўчай працы“ да зборкаў Прадсаборнага Сабраньня неспадзявана паўстала г. зв. Мяшаная Камісія, у якую ўвайшлі польскія дзяржаўныя прадстаўнікі. Гэтая Камісія заступіла сабой бясплоднае Прадсаб. Сабраньне і сама павяла бесканечную „падгатоўку“ да абяцанага Царкоўнага Сабору.

Але і на гэтым не канец, бо вось у часе сучаснае бюджэтнае соймавае сэсіі паступіў у Сойм законапраект аб поўнамоцтве для Прэзыдэнта Рэчыпасп. у справе выданьня дэкрэту аб *праўным устрою* Праваслаўнае Царквы.

Гэта нязвычайна ўзбудзіла зацікаўленьне праваслаўных вернікаў, якія ўважаюць, што Царкоўны Сабор — гэта кананічная канешнасьць Праваслаўнае Царквы і нічым яго замяніць ня можна.

Вось-жа праваслаўныя вернікі цяпер асабліва памятуюць аб патрэбе Сабору і дапытваюцца — будзе ці ня будзе Царкоўны Сабор, скліканьне якога запэўняе дэкрэт Прэзыдэнта Р. П. з дня 31.V.1930 г... *Мірон Астапчык.*

---

Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy

5)

## Umovy i zahady nieabchodnyja dla zdaroŭja

### Adpačynak.

Čałaviek *pieramučany* heta bolš-mienš toje samaje, što čałaviek chvory. Pry fizyčnaj pracy ciahlicy bolš pracujuć. U ich, a paźniej u kryvi j usich orhanach sabirajucca pradukty abmienu materyi, jakija arhanizm imkniecca vykinuć cieraz lohkija, skuru j nyrki. Značycca pracujuć tady ŭsie orhany, a nia tolki samyja ciahlicy. Dziela taho čałaviek, jaki maje chvory taki ci inšy orhan — mienš pracazdolny. Nervovaja systema, jak hałoŭny kiraŭnik usiaje haspadarki ŭ arhanizmie adnolkava, a na‘t bolš jak usie inšyja orhany, moža pieramučycca.

Paśla kožnaje pracy, praviedzienaje z bolšym napružańniem, treba adpačyć. Mo‘ nie adnamu sa starejšych krychu dziŭnavata čujučy, jak raskazvajuć školniki, što za modnyja siańnia lekcyi robiać nastaŭniki: raz prynamsia ŭ praciahu hadziny zahadyvajuć u škole *pieramianiać* svaje miescy. Dzieci z homanam kidajucca, kab chutčej zaniać novaje miesca. Paśla pary minutaŭ kryk spyniajecca i dalej lekcyja jdzie narmalna. — Pa što heta *robicca?* Jasna — nia dziela adnaje pustoje vydumki nastaŭnika. Dośledy nad karysnaściu pracy pakazali jarka, što čałaviek vielmi doŭha nia moža siadzieć na adnym miescy, treba jamu adpačyvać, zaniacca krychu niečym inšym. Pačaŭšy nanava rabota jdzie šmat šparčej.

Jezuity, jakija svaich siabroŭ uzhadoŭvajuć vielmi racyjanalna, zabaraniajuć farmalna daŭžej siadzieć skažam nad knižkaju, čymsia dźvie hadziny. Kažuć, treba rabić chacia-b maleńki pierapynak, a paźniej rabota budzie šmat składniejšaja.

Siańniešnija sacyjalnyja zdabyčy ŭ rabotnikaŭ, značycca damahańnie 8-i hadzinnaha dnia pracy, abasnavany, jak bačym, na dośledach navukovych, što čałaviek najlepš pracuje, kali jahonaja praca nia tryvaje bolš, jak 8 hadzinaŭ padrad. Karyśniejšaja takaja praca i rabotniku j samoj rabocie. Chto choča lepš pracavać i mieć daŭžej siły dziela pracy,

* * *

Прысьв. У. Паўльскаму.

*Годзі!*
*Ня модна быць сёньняка ціхім,*
*песьціцца соладам мляўкіх задум.*
*Час наш пад знакам шалёных натугаў,*
*мкнецца, як дзікі —*
*у буры і шум.*

*Скрыпкі ціхія і песьні — прымоўклі..*
*Лёг на дарогу іржавы туман*
*нэрвы, як струны, хтось зблутаў бяз толку;*
*грукатам лечыць —*
*душу барабан.*

*Вёскамі... полем... шырокай дарогай...*
*Вечарам, раніцай, ночу і днём,*
*бродзіць бяздомнай прыблудай трывога.*
*Заўтра загадкай —*
*стаіць пад акном.*

*МІХАСЬ МАШАРА.*

## *На прадвесьні*

*Падралась кужэльна кашуля зімы*
*і люты стаў латаць палеткі,*
*рубіць узгоркі, загоны, шляхі*
*на чорныя плямы, на сьцежкі.*

*Ў растрэпаных лапцях*
*крадзецца мароз,*
*часам і ў вакно заглядае.*
*А сонца засьвеціць —*
*апусьціць свой нос*
*і соплі свае абцірае...*

*Ідве сакавік у рабым каптане,*
*распусьціў свае полы на вецер, —*
*жаўрука з кішані ўгору шпурне*
*і бусла паказвае дзецям.*

*П. ГРАНІТ*

26-II-1938.

## *Апошнія крыгі*

*Ля моста лёд спынілі крыгаломы,*
*як-бы вясну хацелі затрымаць.*

*А з пад лядовае вырваўшысь кары,*
*на поўнач шпарка шэрыя каціліс хвалі.*
*Іх сонца лашчыла і вецер карбаваў,*
*гуляючы па іх халоднай сталі.*

*А з вёскі выйшлі хлопцы з бусакамі;*
*ганяюць крыгі, весела крычаць...*
*Зірні:*
*і дзед ў кажушку з дзяцюкамі*
*прыйшоў зіму ліхую праганяць...*

*Вунь, як заўзята крыгу папіхае!..*
*— Ну, праклятая!*
*Як быццам ты ня знаеш,*
*што ў хляве карова не ўстае;*
*што каніна шоры ледзь цягае;*
*што ў хаце хлеба не стае;*
*што год-за-годам ў лесе даражае...*
*— Ну, яшчэ, яшчэ, э-эп! Па-а-йшла!..*

12.III.1938. *ЯНКА БРЫЛЬ*



**Першы беларускі ўрад на чале з Я. Варонкам, які трываў ад 20.II.1918 да 23.VII.1918 г. у Менску.**

toj musić bierahčy svajo zdaroŭje nia tolki *na siańnia*, ale i na ŭsio žyćcio. Pracujučy da ŭtomy, źniеachvočvajemsia da našaje pracy, nia majem *radaści*, jakuju narmalna praca pavinna vyklikać.

Biazumoŭna, toje, što my tutaka kažam, treba razumieć šyraka. Nie pry kožnaj pracy ludzi majuć adnolkavyja ŭmovy. Inšaja praca budzie ŭ harakopa, jaki nia bačyć sonka nad saboju j nia maje čystaha pavietra, inšaja praca rataja, što chodzić za płuham pry miłych koskach viasieńniaha sonka; inšyja ŭmovy buduć, skažam, u tkačoŭ fabryčnych u pyle, duchacie, inšaja ŭ žancoŭ, chacia henyja ŭvieś dzień sahnuŭšyś nad siarpom. Da taho, niaroŭnaja vynoślivaść u ludziej.

Asnaŭnyja zakony buduć *adnolkavyja*. Adpačyvać treba kožnamu, kožnamu treba spać. Dyk adpačynak cieraz son, adpačynak ciaraz kožnyja niekalki dzion heta prava, za jakoje pavinien *zmahacca* kožny čałaviek. Kali, skažam, siańnia balšaviki vykinuli śviatkavańnie niadzieli, jak ustanovy kaścielna-carkoŭnaje, dyk nia vykinuli jany asnaŭnoha pryncypu adpačynku. I ŭ ich adpačyvajecca kali nie ŭ niadzielu dyk u pryznačanyja na heta adumysłovyja dni. Adpačyvać treba ŭsim, ci heta buduć školniki, ci chatnija rabotniki, ci pracaŭniki ziamielnyja ci ŭmysłovyja, ci jakija inšyja. Koŭny, chto nia choča zabycca ab usich inšych patrebach svaich, chaj adpačyvaje.

Zapamiatajem sabie dobra, što adpačyvać, heta nia toje samaje, *što ničoha nie rabić*, ležučy ŭvierch trybuchom. Zusim naadvarot, možna *adpačyvać i adnačasna karystać u inšym napramku nam patrebnym*. Prykładam rabotnik fizyčny adpačyvajučy moža čytać karysnyja knižki, navučycca ab niečym novym, što jamu prydascca da jahonych patrebaŭ na zaŭtra. Tolki hetak žyvučy pryjdziem da vyvadu, što sapraŭdy jość časiny pryhožyja, što śviet nie taki błahi, što varta kab pažyć!

Pomniu vielmi asablivy vyhlad niamieckaha horadu ŭ niadzielu. Ranicaju, čuć śviet, na vulicach płojmy narodu, chto jak, adny z miaškom na plačoch, inšyja sa składanymi łodkami na plačoch, inšyja z vializarnymi kulasami ŭ rukach, biez kanca samakataŭ (velosypedaŭ), a na ich časta amal nia

# Як лятаюць буслы

Вясна што-раз больш дае знаць аб сваім прыходзе. Зьяўляюцца ўжо і веснавыя птушкі. У народзе нават ёсьць вера, што на дзень сьвятога Дабравешчаньня (25 сакавіка) абавязкава мусяць прылецець буслы (бацяны). І сапраўды ў гэтым менш-больш часе прылятаюць яны ў наш край.

Не адзін, бязумоўна, застанаўляўся над тым, як гэта буслы, адляцеўшы ад нас аднаго году, варочаюцца назад з далёкіх заморскіх краёў і трапляюць узноў на старыя гнёзды. Пытаньне гэта муча і людзей вучоных. Дагэтуль, аднак, не далі яны на гэта яснага адказу, хоць стварылі цэлую навуку, назваўшы яе орнітолёгіяй. Цікавыя ў гэтай галіне досьледы рабілі летась польскія вучоныя. Яны лавілі буслаў у адным сяле пад Львовам, малявалі іх і пасьля садзілі па некалькі ў самалёты, якія пасьля ляцелі ў Варшаву (306 клм.), у Букарэшт (660 клм.) і аж у Палестыну (2,260 клм.).

І што атрымоўвалі?

А вось: выпушчаныя з самалётаў буслы наўперад „раўнавалі сабе косьці“, пацягваліся, чысьцілі і роўна ўкладалі патрапанае ў дарозе пер'е (цікава!); тады ўздыймаліся высака-высака, і, акружыўшыся колькі раз каля месца ўзлёту, адлятaлі кожны да свайго гнязда, прычым ляцелі заўсяды па простай лініі, адхіляючыся ад яе толькі прад горамі ці морам (з Палестыны). На чатырох буслоў, тры варочаліся да старых гнёздаў.

Як вытлумачыць гэту як-ні-як вельмі дзіўную здольнасьць ор'ентацыі буслоў і наагул пералётных птушак? — Адныя кажуць, што птушка трапляе да свайго гнязда толькі выпадкова, шукаючы так доўга, пакуль ня знойдзе знаёмай аколіцы (паштовыя галубы). Іншыя аднак цьвердзяць, што птушкі выбіраюць кірунак паводле магнэтычных і электромагнэтычных хваляў, якія маюць рознае насіленьне і абкружаюць усю зямлю. Дапускаюць, што птушка адчувае гэту розьніцу гэтак званым нутраным вухам і паводле гэтага кіруецца.



Усё гэта аднак толькі дагадкі, якія патрабуюць яшчэ пацьвярджэньня.

*Чік.*

# Viasna

*Ja dumkaj radasnaj vitaju*
*Ciabie, viasna, jašče zdalok*
*I raščvitańnie baču ŭ maju*
*I čuju tvoj navokał krok.*

*Chacia zimy jašče ŭładańnie,*
*Chacia panuje noč nad dniom,*
*Jašče nia hreje sonca źjańnie*
*I višnie iniej tumanom.*

*Duša buntarka dumkaj-snami*
*K tabie imčycca ad zimy...*
*Niama prastoru miž sniahami*
*Nia joj ščaścia pamiž ćmy!*

*Arkadź Zaranka.*

# Maja pieśnia

*Hej, kacisia maja pieśnia,*
*Hej, łunaj la šerych strech,*
*Spatykajučy pradvieśnie,*
*Budź viasiołaj nie na śmiech!*

*Klič ludziej da družnaj pracy,*
*Klič ludziej da pieramoh, —*
*Hej, davoli ŭściaž błukacca,*
*Hej, siudy z kryvych daroh!*

*Dyk laci, kacisia pieśnia,*
*Pa staroncy z dali ŭ dal,*
*Spatykajučy pradvieśnie*
*Ty źvini, źvini jak stal!*

*Janka Čorny.*

# Prypieŭki

*Zaśviaciła sonca,*
*blisnnła ŭ vakonca —*
*ŭ maładuju dziaŭčynačku*
*ŭlubiŭsia biaskonca.*

*Jak hlanu na ščočki,*
*abo joj u vočki --*
*la jaje siadzieŭ-by,*
*nie daspaŭšy nočki.*

*A. Hacura.*

ŭsia siamja z baćkam, maciaraju j niekalkimi dziaćmi — ŭsie henyja ludzi ŭstali ranieńka, kab sapraŭdy adpačyć, kab pajechać niedzie za miesta, kab pabačyć krychu zieleni, kab uzdychnuć śviežym pavietram, kab pačuć na sabie śviežy vieciarok. Henyja ludzi za horadam ładziać arkiestry, čytajuć supolna knižki, arhanizujuć prelekcyi. Majuć značycca spałučanaje karysnaje z miłym.

Tyja samyja rabotniki zajmajucca sportami, himnastykaju, bo nia toj razumny, što ad ranicy da nočy pracuje j nia bačyć nijakaha žyćcia pierad saboju, a toj tolki, chto ŭmiecimie *vykarystać* usio toje, što moža znajšci pryhožaha ŭ žyćci.

Padumajma ciapier na mament, jak u nas najčaściej adpačyvajuć ludzi na vioscy. Prychodzić niadziela. Ranicaju kožny, jak Boh zahadaŭ, idzie pamalicca ŭ śviatyni. Najčaściej zadlajecca (prabudzie) tam da pałudnia. Pa pałudni prašpicca niedzie ŭ ciańku, abo jašče viadzie kaniej paśvić. Susiedzi z susiedkami pahavorać na pryzbach pad chatami j nad hetym kaniec. Nazaŭtra nanava šery dzień pracoŭny. Moładź dyk taja jak umieje imkniecca, kab choć kryšku znajšci pryhožaści ŭ henym adnym dziańku. Bolš nia ŭmiejuć vydumać, jak patancavać, a nie, dyk napicca harełki i tady nabušavać... Tancy sprava dobraja, nadta na't dobraja, ničoha na ich nia možna kazać błahoha. Tolki ŭžo niapraŭda, kab aprača tancaŭ nia było ničoha pryhažejšaha, adnačasna-ž karysnaha. Tolki što ŭsiaho hetaha treba vučycca. Nichto ničoha za nas dziela nas nia zrobić.

Toje, što kažuć byccam čužyja abyčai dobryja dziela čužych a nie dziela nas, heta niapraŭda. Usieńka dobraje, što sapraŭdy pryhožaje, karysnaje, što raspluščyvaje šyraka vočy na śviet, što ŭzbahačyvaje nas duchova.

Jašče kažuć, što na takoje kulturnaje ŭzhadavańnie, na kulturnyja hulni, na knihi i h. d. patrebnyja hrošy, jakich u nas nichto nia maje. Adkaz na heta budzie taki, što razumny j na kusočku ziamli *žycimie dobra,* a bahaty, durny — na celych vučastkach nia miecimie ani časiny *dziela siabie,* nie adpačynie nikoli j pad kaniec svajho niaščasnaha žyćcia sam nia viedacimie pa što j na što jon žyŭ i madzieŭ...

# Biełarusy ŭ Varšavie

Varšava heta ruchlivaje miesta. Možna tut spatkać pradstaŭnikoŭ badaj usich narodnaściaŭ. Jość tut para tysiač i biełarusaŭ, katoryja, nažal, dahetul nia byli sarhanizavanyja. Praŭda ŭ 1919-22 h. isnavaŭ tut Biełaruski Kamitet, a paśla „Towarzystwo Polsko Białoruskie", ale jany ŭ chutkim časie spynili svaju dziejnaść. Tymčasam patreba arhanizacyi biełarusaŭ u Varšavie adčuvałasia davoli mocna.

Ja źjaviŭsia ŭ Varšavu ŭ 1931 h., spačatku byŭ biezrabotnym, a paśla, ciažka pracujučy na kavałak chleba, časta dumaŭ ab stvareńni biełaruskaje arhanizacyi ŭ Varšavie i ŭrešcie ŭ 1936 h. zrabiŭ u hetym kirunku pieršuju sprobu. Byŭ pryhatavany statut, adbyŭsia schod i dumali my załažyć Biełaruskaje Kulturnaje Tavarystva ŭ Varšavie, adnak ułady jaho nie zalehalizavali.

Nia traciačy nadziei, 23.XII.37 h. znoŭ ad pačatku panaŭlajem prośbu, źmianiŭšy nazoŭ arhanizacyi na „Aśvietnaje Tavarystva Biełarusaŭ u Varšavie". Pačakaŭšy, zhodna z 13 art. zakonu ab tavarystvach (Dz.U.R.P. № 94 poz. 808 z 1932) pačali dziejnaść.

6.II.1938 h. adbyŭsia pieršy ahulny schod T-va, na katorym vybrany ŭrad u nastupnym składzie: Hapanovič Jazep—staršynia, Orsa Mikałaj — vice-staršynia, Łastaŭka Piotr — sakratar, Giŋko Janka — skarbnik, Šlachtun A. i Čantarycki Janka—volnyja siabry. Revizyjnaja Kamisija: Vituška Michaś, Pańko Ludmiła i Čuryłło Anton. Tavaryski Sud: Šydłoŭski Aleksandar, Turakievič Alena i Aźgin Juljan.

Aśvietnaje T-va Biełarusaŭ maje na mecie pierad usim zhurtavańnie ŭsich „varšaŭskich" biełarusaŭ, a paśla:

a. ładžańnie biełaruskich kancertaŭ, referataŭ, śviatkavańniaŭ;
b. učaście ŭ vystaŭkach, źjezdach i ŭsiakich manifestacyjach adpaviadajučych metam T-va;
c. apieka nad zborami i tvorčaściu biełaruskaha mastactva, inventaryzacyja i popularyzacyja jaho;
d. infarmavańnie presy ab litaratury, mastactvie i žyćci Biełarusaŭ;
e. vydavańnie publikacyjaŭ i ŭłasnych orhanaŭ u movie biełaruskaj i inšych;
f. tvareńnie ŭnutranych sekcyj,
g. tvareńnie biblijatekaŭ i zboraŭ;
h. niasieńnie pomačy moralnaj i mataryjalnaj biełaruskaj moładzi ŭ Varšavie na studyjach;
i. reprezentacyja i abarona intaresaŭ moralnych i mataryjalnych siabroŭ T-va;
j. arhanizavańnie sužyćcia tavaryskaha i samapomačy siarod siabroŭ.

Siabram T-va moža być kožny biełarus(-ka), jaki skončyŭ 21 hod; siabroŭskaja składka ŭ hod 12 zł. i 2 zł. upisnyja.

Prychilnikam moža być kožnaja asoba biaz roźnicy nacyjanalnaści, z hadavoju składkaj 6 zał.

Pieršym vystupleńniem T-va była viečaryna, naładžanaja 26.II, dziela arhanizacyi katoraj najbolš pracavali: L. i A. Pańčanki, Turakievič, Maroz, Giŋko, a tak-ža Šlachtun, Karelič, Tarasiuk i Vituška. Urad T-va ŭsim im hetym składaje haračuju padziaku.

Ciapier T-va pryhataŭlajecca da zborki siabroŭ i haściej dziela paznańnia ahulnaha, a ŭ najbližejšaj budučyni da arhanizacyi kancertu biełaruskaj pieśni j muzyki.

Adrys Biełaruskaha Aśvietnaha T-va: Warszawa, Przemysłowa 23a m. 2. *Piotr Łastaŭka.*

# Беларускі Канцэрт
## Хору Рыгора Шырмы і Аўгеньні Чарняўскай-Орсы

Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні, побач з рэфэратамі і дыскусіямі, у часе якіх бел. студэнты выробляюць сабе сьветапагляд і прыгатаўляюцца да працы на шырэйшым кругазоры, ладзіць час-ад-часу публічныя канцэрты, каторыя даюць духовае



Аўгеньня Чарняўская-Орса.

культурнае падтрыманьне і разрыўку, а таксама падтрымліваюць небагатую студэнцкую касу. Канцэрты гэтыя адбываюцца пераважна ў гасьцінпай унівэрсытэцкай залі Сьнядэцкіх. Чарговы такі канцэрт адбыўся сёлета 4-га сакавіка. У праграму канцэрту ўваходзілі выступленьні ведамага Беларускага Хору Р. Шырмы і маладой беларускай сьпявачкі Аўгеньні Чарняўскай-Орсы. Перад усім трэба сказаць, што вельмі добра быў выбраны дзень канцэрту, а гэта прычынілася да таго, што на залі мы бачылі ня толькі інтэлігенцыю, і віленскіх мешчан, але таксама ня мала сялян у сьвітках, каторыя папрыяжджалі на „Казюковы кірмаш" (4 сакавіка).

Хор грам. Шырмы гэтым разам паказаў сябе ў двох формах: раней як жаноцкі, а пасьля як мяшаны. Жаноцкі хор сваім сьпевам пераносіў слухачоў думкамі на сялянскія нівы, на якіх вясной, а асабліва летам разлягаюцца сумныя дзявоцкія сьпевы аб долі і нядолі. Мешаны-ж хор, сьпяваючы мэлёдыйныя, памастацку згарманізаваныя, беларускія народныя песьні, сваей сілай і мастацкім выкананьнем паказваў хараство нашае песьні ў поўнай яе красе; уліваў у душы слухачоў моц і веру ў лепшую будучыню і ў тое, што песьня і народ які яе стварыў ня згіне ніколі.

А. Чарняўская-Орса—маладая студэнтка Варшаўскай Кансэрваторыі — наваградчанка (родам яна з Наваградчыны), сваім сьпевам, асабліва опэравых арыяў, выявіла прыгожы і багаты голас. Сьпявачка з такім голасам, працуючы, можа мець, бязумоўна, слаўную будучыню, чаго ей ад душы жадаем. Беларускія песьні ў параўнаньні з опэравымі арыямі выйшлі ў яе слабей. Затое аднак вельмі ўдалым было заканчэньне выступленьня А. Чарняўскай-Орсы песьняй „Маладая Беларусь." Песьня гэта хвалявала душы беларускіх слухачоў і выклікала вялікі энтузыязм, так што артыстка мусіла яе паўтараць, зьбіраючы за ўсё буру воплескаў і бярэма кветак.

Прыемнай неспадзеўкай на канцэрце былі беларускія нацыянальныя танцы на сцэне: „Лявоніха" і „Чарот," каторыя выканала група бел. студ. моладзі пад умелым кіраўніцтвам і ў апрацаваньні мгр. Я. Хвораста.

Шматлікія слухачы, правёўшы вечар у мілым беларускім настроі, выходзілі з залі выражаючы ўдзячнасьць Бел. Студ Саюзу, за ягоную працу пры сарганізаваньні ўдалага канцэрту і тымбольш ахвярным выканаўцам самага канцэрту. Я—к.

## Damahajucca biełaruskaje movy ŭ polskim radyjo

My nia raz užo zvaročvali ŭvahu na patrebu biełaruskich lekcyjaŭ, pieśniaŭ i inšych pieradačaŭ z Vilenskaje Radyjostancyi. Źmiaščali my tak-ža karespandencyi z vioski, u jakich taksama byli vyražanyja damahańni biełaruskich aŭdycyjaŭ (pieradačaŭ). Ale ŭsio heta nia tolki nie pamahło, a navat byli achviary za hetyja damahańni.

U miesiacy sakaviku sioleta ab patrebie biełaruskaje movy ŭ vilenskaj radyjostancyi šyraka pisaŭ „Kurjer Wileński," pisała tak-ža ab hetym i „Słowo." U „Kur. Wil." u hetaj spravie miž inš. zabirała hołas viedamaja polskaja litaratka Helena Romer, zajaŭlajučy, što užyvańnie biełaruskaje movy ŭ radyjo jość najpilniejšaj patrebaj, bo, jak kaža, intelihiencyja na vioscy śćvierdziła, što sialanie słuchajuć biełaruskich pieradačaŭ z Mienska i hetym samym papadajuć u sietku kamunistyčnaje ahitacyi. Bo „kličy z Rasiei chutčej traplajuć u vušy tutejšym ludziam, čymsia litaraturnyja tvory z Vilni, Varšavy, Katavic".

Baranavicki karespandent „Kur. Wil." (№ 4389) piša hetak: „Mnoha ludziej słuchajuć radyja z Mienska abo Maskvy zusim biaz kiepskich namieraŭ i prastupnych dumak, a prosta dziela taho, što hetyja radyjostancyi dajuć aŭdycyi ŭ zrazumiełym i bližejšym dla ich biełaruskim jazyku. Treba dać miascovym ludziam audycyi ŭ biełaruskim jazyku, kab jany nie kazali na Miensk: tam radyjostancyja „naša," a tut u Vilni „Polskaja" abo „ichnaja."

Čytajučy ŭsie damahańni biełaruskich aŭdycyjaŭ u Vil. Radyjostancyi, paŭstaje sapraŭdy dziŭnaje pytańnie, čamu hetaha nichto z kiraŭničych kruhoŭ radyja nie biare pad uvahu. Bo-ž i dabro Polskaha Haspadarstva vymahaje biełaruskich aŭdycyjaŭ. Balšaviki ŭ takim vypadku daŭno užo šukali-b „vreditielej"... *j. n.*

## Просім памагчы!

Малады, сьведамы беларус з Горадзеншчыны, сын беднага селяніна, калекі — без аднае рукі — акуратны падпішчык „Шляху Моладзі," чулы на ўсе бел. заклікі — злажыў ён ахвяру на памятнік А. Лявіцкаму, а таксама і на дапамаговы фонд беларускай моладзі — шукае падходнае яму працы, каб магчы з яе пражыць. Усіх, хто ў гэтым можа яму памагчы, просім гэта зрабіць. Паведамленьні прысылаць: Рэдакцыя „Шляху Моладзі" — Вільня, Завальная 1, Горадзенскаму. Рэд. „Шл. Мл."

## Z biełaruskaha žyćcia

**Začynili Bieł. Nac. Kamitet.** 14 h. m. Vilenskaje Haradzkoje Starastva začyniła Bieł. Nac. Kamitet u Vilni, jaki, jak viedama, byŭ spynieny prad dvuma miesiacami, 15-ha studnia 1938 hodu. U pastanovie svajej Starastva ćvierdzić, što Kamitet imknuŭsia da budavańnia niezaležnaści Biełarusi pavodle aktu z 25.III 1918 hodu — Zaznačyć tut akramia taho varta, što padčas kali sami biełarusy ličać Bieł. Nac. Kamitet arhanizacyjaj palityčnaj, dyk vilenskija administracyjnyja ŭłady ćvierdziać, što ličać jaho tavarystvam statutovym, zalehalizavanym u Departamancie Unutranych Spraŭ b. Siaredniaj Litvy na padst. raspaрадżeńnia T.K.R. z dnia 28.X.1920 (Dz. U. T.K.R. № 3 ex 1920) i dn. 6.V.1921 h. upisanym u rejestr tavarystvaŭ pad № 60. Heta praŭnaja padstava isnavańnia B.N.K-tu nia była spyniena nijakaj farmalnaj pastanovaj adpaviednaj ułady.

Ad apošniaj pastanovy Starastva urad B.N.K-tu adklikajecca ŭ Vilenskaje Vajavodztva.

**Kanfiskata.** 18.III. siol. Vilenskaje Haradz. Starastva skanfiskavała № 8 biełaruskaha časapisu „Chryścijanskaja Dumka."

**U biełaruskich studentaŭ.** 6.III siol. u Biełaruskim Studenckim Sajuzie adbyŭsia ahulny hadavy schod hetaj arhanizacyi. Hałoŭnymi punktami schodu byli: spravazdača z dziejnaści ŭradu za minuły hod i vybary novaha ŭradu. Spravazdača z dziejnaści była pryniata da viedama, i staršyni ŭradu stud. A. Dasiukieviču vyražana padziaka. U novy ŭrad vybrany: A. Dasiukievič — staršynia (paŭtorna), K. Šeška—vice-staršynia, Č. Najdziuk — haspadar, T. Trafimiučanka — skarbnik i V. Jermałkovič — sakratar. Vybrana tak-ža revizyjnaja kamisija ŭ nastupnym składzie: A. Zasim, K. Hryharčuk i V. Skłuboŭski.

Novy ŭrad adrazu prystupiŭ da dziejnaści i ŭžo ŭ Bieł. Stud. Sajuzie 12 h. m. adbyŭsia viečar pryśviačany narodnym kazkam, u časie jakoha vystupali dr. J. Stankievič i Maksim Tank, a 16 h. m. była naładžana dyskusija z referatam stud. A. Zasima na temu: „Biełaruski student na vioscy."

**Čarhovy apraŭdalny prysud „Bieł. Krynicy".** Redaktaram „B. Krynicy" doŭhija hady byŭ J. Paźniak. Za kanfiskaty hetaj hazety było vielmi mnoha sudoŭ. Adzin z sudoŭ nad red. „B. Krynicy" J. Paźniakom adbyŭsia 11 h. m. u Vilenskim Akružnym Sudzie, jaki red. J. Paźniaka apraŭdaŭ. Ciapier zaviešanaja „B. Krynica" nia maje ŭžo ani adnaho karajučaha prysudu. A sudovych spraŭ u praciahu adnaho tolki hodu red. Paźniak mieŭ 12. U hetych spravach u sudzie baraniŭ advakat B. Alachnovič.

**U pryjacielaŭ biełaruskich skaŭtaŭ.** 13.III siol. u Vilni ŭ bieł. himnazii adbyŭsia ahulny hadavy schod Hurtka Pryjacielaŭ Biełaruskich Skaŭtaŭ, na jakim, paśla spravazdačaŭ z dziejnaści za minuły hod, vybrany novy urad Hurtka, u skład katoraha ŭvachodziać: ks. dr. Hlakoŭski—staršynia, stud. Č. Najdziuk — sakratar, stud. M. Ščors — skarbnik, śviašč. I. Bahatkievič, hram-ka A. Lekant, hram. Jehier i družynovyja. Staršynioj schodu byŭ dyr. Ancukievič, sakratarom — red. J. Najdziuk.

**Rekolekcyi** dla biełarusaŭ katalikoŭ u Vilni adbylisia sioleta u kaściele śv. Mikałaja ad 17 da 20.III. Rekolekcyjami kiravaŭ Ks. Ad. Stankievič.

**U česć P. Krečeŭskaha,** b. staršyni Rady Bieł. Nar. Respubliki, z nahody 10-ch uhodkaŭ jaho śmierci, 9 III siol. u Prazie českaj adbyłasia chaŭturnaja akademija.

## Падзякі за прэміі

**якія атрымалі падпішчыкі »Шляху Моладзі« за акуратную падпіску ў 1937 годзе.**

„Паважаная Рэдакцыя „Шл. Мол.!" Гадзіньнік, як прэмію за падпіску на „Шлях Моладзі" за 1937 г. я атрымаў і вельмі задаволены. Нас ёсьць двох: я і брат мой. Мы не багатыя і вельмі любім чытаць свае кніжкі і часапісы. Дзеля гэтага просім прысылаць нам беларускі кнігапіс. За гадзіньнік шчыра Вам дзякуем".

З братнім прывітаньнем

Дзісьненшчына. С. Качаноўскі.

„Да Паважанай Адміністрацыі нашага беларускага часапісу „Шлях Моладзі" ў Вільні.

Паважанай адміністрацыі складаю шчыра-сардэчнае падзякаваньне за атрыманую ад яе, так не чаканую і неспадзяваную прэмію ў постаці кніжкі „Пчолы" — Я. Пачопкі. Чытаць „Шл. Моладзі" маю вялікую ахвоту, але нажаль ня ўсе нумары акуратна атрымліваю — дзесь гінуць. Прашу, калі ласка, зрабіць захады, каб ён да мяне акуратна даходзіў.

З паважаньнем

Горадзеншчына. Я. Панасюк.

„Шчыра дзякую Пав. Рэд. „Шл. Моладзі" за прэмію — „Хрыстаматыю Беларускае Літаратуры." Была яна для мяне прыемнай неспадзеўкай. Адначасна высылаю 4 зл. 50 гр. на беларускія кніжкі".

Горадзеншчына. Р. Жывалеўскі.

# ШТО ЧУВАЦЬ

— Найгаласьнейшай справай апошніх дзён быў выпадак **польска-літоўскі,** які паўстаў у наступных абставінах: уночы з 10 на 11 сакавіка сёл. на польска-літоўскай граніцы каля Марцінканцаў (у Горадзеншчыне), польскі салдат Ст. Сэрафім хацеў затрымаць нейкага няведамага чалавека, каторы ўцякаў заграніцу ў Літву, пры тым салдат гэны перайшоў граніцу. Літоўская страж хочучы яго затрымаць пачала страляць і сьмяротна яго раніла. Пасьля сьмерці Сэрафіма польскі ўрад паставіў Літве ультіматум (неадкладнае дамаганьне), каб яна ў працягу 48 гадзін згадзілася навязаць дыплёматычныя зносіны з Польшчай, г. зн. каб былі ўстаноўленыя: літоўскае пасольства ў Варшаве а польскае ў Коўне. Адначасна з гэтым польскае войска выйшла на літоўскую граніцу. Палажэньне было вельмі напружанае, асабліва 18 і 19 сакавіка. Ня маючы іншага выхаду, Літва мусіла згадзіцца на прыняцьце польскіх варункаў і ўжо да 31.III 1938 году маюць быць навязаны польска-літоўскія дыплёматычныя зносіны.—У польскім жыцьці як важны факт трэба адцеміць паездку ў **Італію** мін загр. спраў Бэка, дзе ён навязваў цясьнейшыя польска-італіянскія адносіны.

— Другім вельмі важным фактам у міжнародным жыцьці ёсьць далучэньне **Аўстрыі да Нямеччыны.** Як мы ўжо пісалі, аўстрыяцкі канцлер Шушніг, ня гледзячы на тое, што дагаварыўся з Гітлерам у справе далучэньня Аўстрыі да Нямеччыны і ўвёў у аўстрыяцкі ўрад некалькі гітлераўцаў, стараўся аднак ратаваць незалежнасьць Аўстрыі, шукаючы падтрыманьня ў Італіі, Францыі, Англіі. Бачачы гэта, Гітлер даў прыказ нямецкаму войску заняць Аўстрыю, што і было зроблена 12.III.1938. Францыя-ж і Англія агранічыліся толькі да дыплёматычнага пратэсту, хоць для іх злучэньне Нямеччыны і Аўстрыі ў адно вялізарнае гаспадарства вельмі не на руку. Усьлед за нямецкім вайскам адведаў Аўстрыю Гітлер. Да аружнай барацьбы між аўстрыяцкім войскам і нямецкім не дайшло, бо аўстрыякам даны быў прыказ не супраціўляцца гітлераўскай сіле. Аўстрыяцкі канцлер Шушніг і прэзыдэнт Аўстрыі Мікляс падаліся ў адстаўку і цяпер знаходзяцца пад арыштам. Улада ў Аўстрыі поўнасьцю перайшла ў рукі гітлераўцаў. 10.IV у Аўстрыі будзе галасаваньне, каторае мае пацьвердзіць волю аўстрыяцкіх немцаў у справе злучэньня іх з Нямеччынай. Адначасна адбудуцца выбары ў агульны нямецкі парлямант, у які ўвойдуць і прадстаўнікі Аўстрыі. Дасюлешні-ж нямецкі гітлераўскі парлямант у Бэрліне Гітлер распусьціў.

— Пасьля заняцьця Аўстрыі **Гітлер** у гутарцы з англійскім публіцыстам зрабіў заяву, якая непрыемным рэхам адбілася ў **Польшчы.** Гітлер сказаў: „Прызнаём, што Польшчы, краю з 33 мільёнамі жыхароў, канешна патрэбны доступ да мора. Напаўняе нас горыччу тое, што доступ гэты да мора ёсьць калідорам праз нямецкую тэрыторыю...“

— Далучэньне Аўстрыі да Нямеччыны моцна ўстрывожыла між іншым і **Чэхаславаччыну,** дзе ёсьць 3 мільёны немцаў, каторых Гітлер хацеў-бы так-жа далучыць да Нямеччыны.

— **Англія і Францыя**, бачачы неспакойныя пачынаньні Нямеччыны, перад усім кладуць вялікі націск на ўваружэньне. Францыя на ўваружэньне сёлета мае йшчэ выдаць каля 20 мільярдаў франкаў, Англія-ж на найбліжэйшыя гады асыгнавала на ўваружэньне больш 40 міліярдаў злотаў. **Злучаныя Штаты Паўноч. Амэрыкі** будуюць новыя ваенныя караблі на агульную суму 1 мільярда даляраў. Разбудоўвае так-жа морскую флёту і **СССР.**

— **Францыя** йзноў перажыла зьмену ураду. Урад Шотан'а падаўся ў адстаўку. Новы-ж урад стварыў сацыяліст Блюм. Газэты пішуць, што ў хуткім часе ў Францыі будзе створаны ўрад агульнае кансалідацыі (аб'яднаньня). Ужо нават Блюм прабаваў гэта зрабіць, але яму пакульшто не ўдалося.

— Вялікі палітычны працэс 21 старых бальшавікоў у **Маскве,** на чале з Бухарынам, Рыкавым, Ягадай, Крэстінскім і Розэнгольцам кончыўся 12.III прысудам сьмерці для 18 абвінавачаных. Прысуд у хуткім часе быў выкананы. Сярод расстраляных згінуў і б. сакратар **Камуністычнае Партыі Беларусі** Шарангові́ч, які на судзе між іншым заявіў, што ён, а таксама Чарвякоў, Галадзед, Ваўковіч і Гікала — б. галавары Савецкае Беларусі імкнуліся да адарваньня Беларусі ад СССР і падданьня яе пад пратактарат Польшчы. Цяпер у Маскве прыгатаўляецца новы працэс, гэтым разам слаўных савецкіх ваякаў маршалаў: Блюхера і Будзённага. Як бачым, ністажэньне старое бальшавіцкае кадры далей адбываецца.

— **Мусоліні,** ня могучы сам успакоіць **Абісыніі,** пасюліў быццам Нэгусу—абісынскаму каралю — вярнуцца ў Абісынію і заняць пасад першага князя ў аднэй з абісынскіх краінаў, якая атрымала-б аўтаномію. Нэгус на гэта аднак не згадзіўся.

— На **Далёкім Усходзе Кітайцы** пачалі над Жоўтай Ракой контр-атаку і ў некаторых мясцох нават перамагаюць **Японцаў.** Кітайцы быццам атрымалі з СССР 780 ваенных самалётаў.

— Урадаўцам у **Гішпаніі** на пачатку гэтага месяца ўдалося затапіць вялікі паўстанцкі карабель „Балеарэс.“ Пры тым згінула больш 600 паўстанцкіх матросаў, на чале з адміралам. Пасьля гэтага, а асабліва пасьля заняцьця Нямеччынай Аўстрыі, наступленьні паўстанцаў вельмі узмацніліся і яны ўсьцяж ідуць наперад, бамбардуючы Барсэлёну. У працягу толькі 24 гадзін Барсэлёна была бамбардавана 12 разоў і ад гэтага згінула больш 1.300 асоб і каля 2.000 было ранена. Вострае наступленьне паўстанцаў выклікала неспакой у Францыі і ходзяць нават чуткі, што Францыя думае забраць усю Каталёнію з сталіцай Барсэлёнай. У гэтым намеры падтрымліваюць быццам Францыю англійскія сацыялісты і частка кансэрватыстаў. Гэтага так-жа быццам жадаюць самі каталёнцы. А як будзе — пабачым.

*jn.*

---

**У наступных двох нумарох «Шляху Моладзі» будуць надрукаваныя артыкулы рэд. Я. Н. (J. N.):**

**„Da spravy polska-biełaruskich adnosinaŭ“,**

які будзе абапёрты на найнавейшых польскіх выступленьнях і

**„Сучасныя ідэолёгічныя кірункі сярод моладзі“,**

каторы выкліканы шматлікімі пісьмамі і пытаньнямі з вёскі.

# З КРАЮ

**Бярэце прыклад з большасьці**

*в. Ятра, Наваградчына.* Моладзь нашай вёскі ўжо даўно зразумела, што гарэлка і карты, гэта вялікія нашыя ворагі. І вось большая частка моладзі ня п'е гарэлкі, а таксама не займаецца шкоднай гульнёй у карты. Замест картаў, чытае моладзь беларускія кніжкі і газэты, стараецца ўсімі сіламі пашырыць роднае друкаванае слова, аб чым сьведчыць факт, што нашыя малодшыя браты і сёстры, амаль кожны ўмее чытаць пабеларуску, лацінкай і гражданкай, ня гледзячы на тое, што ў школе вучаць выключна папольску. Але, на вялікі жаль, ёсьць і такія адзінкі (імён не падаю, думаю што яны з блуднай дарогі зыйдуць), каторыя „газуюць" ува ўсю, прапіваючы цяжка запрацаваныя грошы. А то нясуць нават на гарэлку апошні пуд, а ў пэрспэктыве вясна і... далей...

Разумеецца, на гэтыя „газаваньні" ня згодныя іх бацькі і старэйшыя браты, за што пасьля часта вынікаюць сямейныя непаразуменьні, а то йшчэ і горш.

Дык, браты, апамятайцеся, бярэце прыклад з большасьці сваіх сяброў, кіньце гэтую атруту. Няхай яе ня знаць! Шкодна для самога сябе, а перад моладзьдзю і ўсім народам стыдна. *Люка.*

**Kulturny viečar.**

*m. Astryna, Ščučynski pav.* 27.II siol. u v. Navasiołki kala Astryny „K.M.W." z Astryna staviła biełaruskuju kamedyju „Mikitaŭ łapać". Pradstaŭleńnie ŭdałosia vielmi dobra i za heta ščyra dziakujem arhanizataram jaho, a pierad usim artystam-amataram, katoryja roli svaje vykanali davoli dobra. Moładź, čujučy rodnyja słovy sa sceny, vyražała svajo zadavaleńnie hučnymi vopleskami. Moładzi z usich akaličnych viosak, a navat i z m-ka Astryna, było šmat. Pa pradstaŭleńni adbylisia skoki u pieraryvach katorych moładź deklamavała biełaruskija vieršy M. Vasilka i śpiavała biełaruskija pieśni Usie byli vielmi zadavolenyja. Pažadana, kab hetkija viečary adbyvalisia pa ŭsich vioskach i miastečkach našaha kraju.

*Ryhor Vincukievič.*

**Сумныя аб'явы.**

*в. Доўгі Лог, Маладэчанскі пав.* У мясаедзе (карнавале) моладзь у нас бавілася даволі весела, але нажаль някультурна, бо найчасьцей як зробяць вечарыну, то нап'юцца гарэлкі, а пасьля йдуць у работу нажы і сьвінцоўкі. Дык пасьля кожнага бадай сьвята, так і чуеш, што там забілі, там зарэзалі, або пабілі каго-небудзь. Такія аб'явы проста жахам праймаюць. Прычынаў гэтага трэба шукаць у цемры і дзеля таго на вёсцы трэба пашыраць сьвятло, вучыць моладзь чытаць, пісаць і пашыраць свае беларускія часапісы і кніжкі.

*Ул. Бараноўскі.*

**Na dapamahovy fond biełaruskaj moładzi pry „Šl. Mł."**

*achviaravali:*

M. Čantarycki 3 zł., R. Žyvaleŭski 50 hr., M. Š. 2 zł., Z. Ratkievič 1 zł.

Usim achviaradaŭcam ščyra dziakujem.

**Red. Kal. „Slachu Moładzi".**

*Грамадзяне! Памятайце аб бел. моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускай вучнёўскай незаможнай а здольнай моладзі на адрыс: Red. „Šlachu Moładzi". — Wilno, Zavalnaja 1.*

# ЦІКАВА

**Zakryli apošniuju carkvu.** Savieckaja presa piša, što kamunistyčnaja ŭłada zakryła u Miensku apošniuju carkvu.

**Čałaviek jaki znaje 290 jazykoŭ.** U Frankfurcie (Niamieččyna) žyvie 63-letni dr. šyc, jaki znaje 290 jazykoŭ i dyjalektaŭ. Dr. šyc jość pryrodnikam, a z movami paznajomiŭsia „miž inšym".

**Našy koni jeduć zahranicu.** U 1937 h. z našaha kraju vyviezieny zahranicu 1500 koniaŭ na sumu kala 1 milijona zł.

**Kolki jość kinaŭ u Eŭropie.** Najnaviejšaja statystyka padaje, što ŭ Eŭropie jość 34,178 kinaŭ z 15 milijon. miescaŭ.

## *Паштовая скрынка*

а. д р. Я. Т.: За мілыя словы і пасылку шлём Вам шчырую падзяку.

П. Граніту: Вершы атрымалі, у меру магчымасьці будзем друкаваць.

У. Бараноўскаму: Карэспандэнцыю атрымалі. друкуем.

Я. Пышцы Негневіцкаму і Я. Нарцызу: Вершы нажаль слабыя. Будзем аднак старацца паправіць хоць па аднаму вершу і надрукаваць. Радзім пазнаць добра бел. граматыку, правапіс і чытаць як найбольш бел. кніжак. Просім так-жа пісаць карэспандэнцыі.

Я. Брылю: Адзін верш паправіўшы друкуем. Будзем друкаваць і іншыя. П'есу атрымалі, але пакульшто выдаць яе ня можам. Праца аднак Ваша не змарнуецца, бо калі не цяпер, дык у будучыні трэба будзе яе выдаць.

Каровапасу: Вершы слабыя і да друку не падходзяць. Кніжкі высланы. Карэспандэнцыю надрукуем. Падпіска аплачана. У справе асабістай робім тое што можам.

В. Лёгкаму: Карэспандэнцыю атрымалі — выкарыстаем.

Vasilu Vasilku: Tvor Vaš nažal słaby i da druku nie padchodzić.

Markotnamu i Dudaru: Z pryslanych viestak skarystajem.

С. Крыўцу: Верш надрукуем, часапіс будзем высылаць.

К. Самавуку: Шчыра дзякуем за добрыя словы. Вершы нажаль слабыя. Больш працуйце над сабой, больш чытайце і глядзеце, як іншыя пішуць. У справе недаручаньня „Шл. Мл." мы зьвярталіся ў Дыр. Пошт. і цешымся, што Вы ўжо дастаеце яго акуратна.

таньне!

**Ужо прыгатаўляем прэміі, якія будуць разлёсаваныя між тых падпішчыкаў, каторыя аплацяць акуратна падпіску за „ШЛЯХ МОЛАДЗІ" на 1938 г. у суме 2 зл. і 50 гр.**

## ПЕРШАЙ ПРЭМІЯЙ БУДЗЕ РАДЫЁАПАРАТ.

**Апрача таго будзе разлёсавана: 10 бел. бібліятэчкаў, 5 гадавых падпісак на бел. літаратурна-навуковы час. «Калосьсе», 5 гадавых падпісак на гаспадарскі часапіс «Самапомач» і шмат іншых цэнных прэміяў.**

**Хто яшчэ падпіскі за 1938 г. не аплаціў, няхай зробіць гэта ў найбліжэйшым часе.**

*„Шлях Моладзі" рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ... даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.